# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 50 (459) | ГОД IX | 13 СНЕЖНЯ | ЦАНА 60 гр.

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ЛЮДОЎЦЫ



У апошніх днях лістапада адбыўся ў Варшаве IV Кангрэс Аб'яднанага Стронніцтва Людовага. На Кангрэсе былі падведзены вынікі пяцігадовай дзейнасці, вызначана новыя заданні і выбрана Галоўны Камітэт. Старшынёю Прэзідыума Галоўнага Камітэта Кангрэс устанавіў, як да гэтага часу, Маршалка Сейма Чэслава Выцэха.

— Чым дэлегаты беластоцкай арганізацыі Аб'яднанага Стронніцтва Людовага маглі пахваліцца на Кангрэсе? — пытаем старшыню Ваяводскага Камітэта ЗСЛь у Беластоку, сябра **Яна Рызнара.**

— На Беласточчыне звыш 1100 гурткоў нашай партыі аб'ядноўвае больш чымсьці 13 600 членаў. Члены ЗСЛь — гэта амаль як правіла актыўныя грамадскія дзеячы. Каб вы і чытачы не падумалі, што хвалюся на выраст, вось некаторыя лікі: **амаль 6 200 членаў ЗСЛь з'яўляецца членамі сельскагаспадарчых гурткоў. Сярод радных усіх узроўняў маем звыш 1 700 членаў ЗСЛь,** а 346 уваходзіць у склад прэзідыумаў. Вельмі многа нашых членаў прымае актыўны ўдзел у дзейнасці гандлёвых, пазыкаашчадных і малочных вясковых кааператываў. Агульна магу сказаць, што члены нашай партыі актыўна ўдзельнічаюць ва ўсіх грамадскіх мерапрыемствах. Многія сярод іх з'яўляюцца ініцыятарамі працы грамадскім чынам пры пабудове дарог, вясковых крамаў, злеўняў малака і другіх аб'ектаў супольнага карыстання. Магу тут прыкладна назваць прозвішча настаўніцы са Старога Ляўкова ў Гайнаўскім павеце **Любы Харкевіч,** або старшыні сельгасгуртка ў Мілейчыцах Сямяціцкага павета, сябра **Анатоля Курсовіча,** а многа другіх зусім не ўступае ім актыўнасцю.

— Беластоцкае ваяводства мае сельскагаспадарчы характар, а вы перш за ўсё дзейнічаеце на вёсцы. Як тады намагаецеся павысіць ураджайнасць, разгарнуць жывёлагадоўлю?

— Перад усім праз асабісты прыклад нашых членаў, сярод якіх **сотні дабілася ўжо зараз вышэйшага ўраджаю, чымсьці прадбачваецца для Беласточчыны на 1970 год.** Збіраюць яны па 25—30 цэнтнераў збожжавых з аднаго гектара. Цяпер

(Працяг на стар. 2)

МІХАСЬ МАШАРА

* * *

На сонцы ззяюць струны-рэйкі,
лятуць у далі цягнікі.
Я сум лаўлю ў сэрцы цейкі
і пазіраю з-пад рукі.

Ад цягнікоў і каляінаў
адвесці вочаў не магу.
Бідаць кранулі успаміны
маю вандроўную тугу.

Я маладосць сваю убачыў,
на міг ў вагоне праз акно,
юнацтва ўзлёты і удачы,
што праляцелі ўжо даўно.

А сэрца старасці не хоча,
яму б за цягніком імчаць,
або ізноў у далі крочыць
з вандроўнай торбай на плячах.
23. VIII. 1964 г.



* * *

Песні, песні — крылатыя птахі,
колькі вас наспявалі гады!
Я за вамі па зорнаму шляху
ўсцяж імкну яшчэ з дзён маладых.

Мне знаёмы і горы і долы,
вашых сцежак зварот і залом.
Многа знаю вас — сумна-вясёлых,
ціхіх, ціхіх і гучных, як гром.

Вы не гусі... Навошта вам вырай
хоць жыццё ваша — вечны палёт.
Вы з пачуццяў гарачых і шчырых,
што з душы выкрэсае народ.

На праілісцы людзей вы адвеку,
назаўжды палюбілі свой кут.
Песні — з вамі лягчэй чалавеку
і ў цяжкія часіны пакут.
28. IX. 1964 г.





Вядро на жураўлі.
Фота — С. Яновіч

## БЕЛАСТОЧЧЫНА У ПРЫЗМЕ ВУЧОНЫХ

**Прэзідыум ВРН у Беластоку** супольна з **Польскім гістарычным таварыствам** наладзіў у лістападзе папулярна-навуковую сесію, якая разглядала ўмовы фарміравання народнай улады на Беласточчыне.

Удзел у сесіі прынялі выдатныя спецыялісты ад навейшай гісторыі Польшчы, доктары: Гура, Гербст, Антаневіч, Гарліцкі, Маліноўскі і прафесар Бардах. Побач вучоных прысутнічалі на сесіі таксама заслужаныя дзеячы, людзі, якія ўласнымі рукамі тварылі гісторыю Беласточчыны.

Арганізатары сесіі намераны сабраны матэрыял выдаць друкам, зразумела, пасля дапаўнення і грунтоўнай апрацоўкі. Можна будзе тады больш дакладна пазнаць падзеі, якія спадарожнічалі ўтварэнню і замацаванню народнай улады на Беласточчыне. Будзе гэта вельмі цэнная крыніца для навуковага пазнання навейшай гісторыі нашай роднай зямлі.

В. Р.

## НА ШКОЛЫ

Да канца кастрычніка свой план грамадскага фонду на будову школ 1000-годдзя выканала ў Беластоцкім ваяводстве 11 паветаў. Сярод іх паветы Дуброўскі і Беластоцкі.

Не найлепш маецца гэтая справа ў паветах Гайнаўскім, Сямяціцкім і Сакольскім, дзе гадавыя планы могуць быць нявыкананы. Таму грамадства гэтых паветаў павінна прыкласці сілы, каб не застацца ззаду.



Вуліца Кастуся Каліноўскага ў Беластоку.
Фота: Паўлючук

## «CESKÝ LID» ПРА ГАЙНАЎШЧЫНУ

У чэхаславацкім этнаграфічным двухмесячніку «Český Lid» выдаваным Ч-С Акадэміяй навук замешчаны вельмі цікавы артыкул Ганны Гынковай аб Гайнаўшчыне пад загалоўкам: «Změny u oblékání na vesnicach v okoli Hajnówký na Podlesi w Polsku od konce 19. stoleté do soucasne doby» Артыкул займае 28 стар у часопісе фармату вялікай васьмёркі і багата ілюстраваны фотаздымкамі, сярод якіх ёсць і каляровыя. На шматлікіх здымках прадстаўлены не толькі тыпы жыхароў Гайнаўшчыны ў нацыянальным адзенні і абутку, але тканіны і рэдкія прадметы этнаграфічныя, характэрныя для гэтага рэгіёну Беласточчыны.

Артыкул напісан на падставе матэрыялаў, якія аўтар сабраў на Гайнаўшчыне ў 1962 і 1963 г. г.

(мп)



